І. І. Паўлоўскі, Л. Ф. Леўкіна

# Беларуская мова

Падручнік для 2 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

3-е выданне, выпраўленае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2016

УДК 811.161.3(075.2=161.3)
ББК 81.2Беи-922
П21

Р э ц э н з е н т

кафедра беларускага і рускага мовазнаўства
факультэта пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі
«Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка»
(дацэнт кафедры, кандыдат педагагічных навук *Н. М. Антановіч*)

## Умоўныя абазначэнні:

 — дамашняе заданне;

 — правіла;

 — для азнаямлення;

 — пытанні да тэмы;

 — развіццё мовы вучняў;

 — урок ветлівасці;

.. — пропуск літары або некалькіх літар;

... — пропуск слова.

ISBN 978-985-559-639-5 (ч. 2)
ISBN 978-985-559-637-1



# ТЭКСТ

## Агульнае паняцце пра тэкст



Што такое тэкст?
Як адрозніць тэкст ад сказа?

**1.** Прачытайце.



### Пчолы

Пчолы — нястомныя працаўніцы. Яны збіраюць салодкі нектар з кветак і пераносяць яго ў вулей. Чым больш кветак на лузе, тым больш мёду наносяць пчолы.

Колькі сказаў у тэксце? Ці звязаны па сэнсе ўсе сказы? Ці ва ўсіх сказах гаворыцца пра пчол? Які загаловак мае тэкст?



Некалькі сказаў, звязаных паміж сабой па сэнсе, называюць ***тэкстам***. У тэксце кожны наступны сказ развівае, працягвае думку папярэдніх.

**2.** Прачытайце. Ці з'яўляецца напісанае тэкстам? Чаму вы так думаеце?

Пчала — гэта насякомае. Хлопчык убачыў матылька. Птушкі адляцелі ў вырай. Журчыць маленькі ручаёк.

Спішыце сказ пра птушак. Складзіце і запішыце яшчэ два сказы пра птушак.

**3.** Прачытайце сказы. Ці ўтвараюць яны тэкст?

Соня збіраецца ў школу. А яе мало**дш**ы бра**т** Алік ходзіць вакол і ця**ж**ка ўздыхае. Ён просіць узяць і яго **ў** школу. У яго ўжо і рукзак з кніжкаю ёсць. Але яму яшчэ рана. Толькі праз го**д** Алік пойдзе **ў** першы кла**с**.

Спішыце тэкст.

Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

4. Прачытайце. Ці на сваім месцы стаіць выдзелены сказ? Размясціце сказы так, каб атрымаўся тэкст.

## Памочнік

У нас дома ўборка. Я мыю падлогу. Ён памахаў хвастом, потым пачаў хапаць, цягнуць анучу. **Тут падышоў мой сабака Шарык.**

— Ну, Шарык, тады мый падлогу сам. Толькі добра мый.



Запішыце тэкст. Дапоўніце яго адным або двума сказамі.

**5.** Прачытайце.

Вельмі даўно, калі кнігі не друкавалі, а перапісвалі ад рукі, перапісчык размалёўваў першую літару чырвонай фарбай. Гэту чырвоную літару ён пісаў крыху далей ад пачатку радка. Таму радок у тэксце, які пачынаецца з водступу, называюць чырвоным.

З чырвонага радка пачынаюць не любую частку тэксту, а толькі тую, у якой утрымліваецца новая думка.

Чаму чырвоны радок так называецца?
Раскажыце пра чырвоны радок бацькам.



**6.** Прачытайце.

У глыбокіх дуплах нахавалі арэхаў.
Яны насушылі грыбоў.
Цяпер зіма ім не страшная.
Вавёркі падрыхтаваліся да зімы.

Запішыце сказы ў такім парадку, каб атрымаўся тэкст.

## Тэма тэксту. Асноўная думка тэксту



Што такое тэма тэксту?
Што такое асноўная думка тэксту?
Ці можа загаловак адлюстроўваць тэму, асноўную думку тэксту?

**7.** Прачытайце.



**Воблачка**

Устала сонейка. Лясныя жыхары ўзяліся за працу. Толькі воблачка лётала туды-сюды, бо нічога не ўмела рабіць. Ніхто з ім не гуляў. Сумна яму стала. Заплакала воблачка. І тут зазелянела траўка. Усе былі рады дожджыку. Узрадавалася і воблачка. Гэта яно зрабіла дожджык *(Паводле М. Шубіча)*.

Пра што расказваецца ў тэксце?



***Тэма*** — гэта тое, пра што гаворыцца ў тэксце.

**8.** Прачытайце. Пра што ідзе гаворка ў гэтых тэкстах?

## На горцы

Каля школы была ледзяная горка. Увесь дзень на ёй гурт дзяцей. У Сярожы і Мішы санкі самыя вялікія. Прыйшлі малышы. Сярожа паклікаў іх на свае санкі. Дзеці ўселіся і пакаціліся з горкі.

Разам так весела!

## Рыжы сябар

Вольга часта ходзіць у парк. Там жыве яе рыжы сябар. Гэта маленькая вавёрачка з пушыстым хвастом. Вольга стукае па сасне. Звярок скача з галінкі на зямлю. Дзяўчынка працягвае руку. Вавёрачка хутка бярэ корм. І вось яна зноў на дрэве.

Ці выказваецца тэма тэксту ў загалоўку?

Тэма тэксту можа быць выказана ў загалоўку.

**9.** Параўнайце два тэксты. Пра што аўтар хацеў сказаць у кожным з іх?

### Мой любімы занятак



Я вельмі люблю займацца спортам.

Зімой я хаджу на лыжах, гуляю ў хакей, катаюся на санках. Летам люблю пагуляць у футбол, пакатацца на веласіпедзе.

Спорт — гэта здароўе і бадзёры настрой.

Займайцеся і вы спортам, сябры!

### Мой любімы занятак



Я люблю чытаць кнігі.

У кнігах можна прачытаць пра падарожжы і дзівосныя прыгоды, пра цікавых людзей, пра звяроў і птушак — пра ўсё на свеце.

Чытайце кнігі, сябры!

Спішыце адзін з тэкстаў на выбар.



**Асноўная думка тэксту — гэта галоўнае, пра што аўтар хоча сказаць чытачу.**

**10.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту.

Лес — наш з**я**лёны сябар.

Лес нас корміць ягадамі і грыбамі. Лес нас грэе і дровамі, і сценамі хат. Лес нас бароніць у выпадку неб**я**спекі. Чалавек і лес — родныя.

Кожны б**е**ларус любіць лес *(Паводле У. Караткевіча)*.

Запішыце сказ, які можа быць загалоўкам да тэксту.

Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**11.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту.

Я люблю кветкі. Любоў гэта перадалася мне ад маці. Яна кожны год **разводзіць**

гваздзікі́, гладыёлусы, флёксы і хрызантэ́мы. Даглядаць кветкі — мой любімы занятак. З кветкамі жыццё становіцца прыгажэйшым *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

Запішыце тэкст з загалоўкам.
У выдзеленым слове назавіце гукі і літары.



**12.** Прачытайце. Вызначце, пад якім нумарам запісаны тэкст.

1. Дзяўчынка шые лялькам сукенкі. Лена палівае кветкі ў садзе. З настаўніцай Галінай Фёдараўнай мы ездзілі на экскурсію. Міця і Вася дамовіліся наведаць музей Вялікай Айчыннай вайны.
2. Розныя бываюць птушыныя гнёзды. Я зрабіў шпакоўню. Самае вялікае гняздо ў арла. Вясной прыляцяць буслы. Гракі рамантуюць свае гнёзды.
3. У Алёшы жыве сабака. Хлопчык даў яму клічку Гай. Гай спіць на ганку. Ён вартуе дом. Усе любяць разумнага сабаку.

Спішыце тэкст. Дайце яму загаловак.

**13.** Прачытайце. Устаўце словы, якія дапамогуць звязаць сказы ў тэксце. Тэкст запішыце.

### Акварыум

Тата купіў мне круглы шкляны акварыум. ... вельмі вялікі. На дне ... растуць водарасці. Я запусціў ... маленькіх рыбак — гупі і мечаносцаў. Мой кот Васька заўсёды сядзіць побач з ... і назірае за рыбкамі *(Паводле М. Скарахода)*.



Словы для даведкі: *акварыума, ён, акварыумам, туды.*

*аква́рыум*



**14.** Прачытайце словы. Успомніце казку, якую можна расказаць з дапамогай гэтых слоў.

Лісіца, Гусак, злавіла, з’ем, дазволь патанцаваць, танцуй сабе, махаць крыламі, Лісіца смяецца, узняўся і паляцеў, з разяўленым ротам.

Раскажыце казку.

**15.** Прачытайце тэкст. Назавіце яго тэму. Дайце тэксту загаловак.

Цяжка пераджыць халодную зіму звярам і птушкам.

Галодны воўк шукае спажывы ў лясным гушчары. Асцярожныя зайцы робяць на снезе хітрыя петлі. Мышкуюць* лісіцы. Пахаваліся недзе птушкі. Толькі чырванагрудыя снегіры спакойна сядзяць на рабіне *(Паводле Я. Зазекі)*.

**Мышку́юць* — ловяць пад снегам мышэй.



Раскажыце пра тое, чаму птушкам неабходна дапамагаць.



**16.** Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні.



1. Хто прыйшоў у госці на свята да лясных жыхароў?
2. Што падарыў Дзед Мароз зайчыку?
3. Які падарунак атрымала лісічка?
4. Чым частуе Снягурачка птушак?
5. Што атрымаў лось?
6. Якія словы падзякі пачулі Дзед Мароз і Снягурачка ад лясных жыхароў?

Вусна складзіце тэкст па пытаннях.

**17.** Прачытайце тэкст. Як звязаны сказы ў тэксце? Якія словы дапамагаюць звязаць сказы?

### Апельсінавае дрэва

Тата пачаставаў маленькую Наташу апельсінавай цукеркай. Дзяўчынка адразу хацела яе з’есці, але перадумала. Яна пабегла ў сад і пасадзіла цукерку. Можа, з яе вырасце апельсінавае дрэва *(Паводле М. Панковай)*.

Вусна перакажыце тэкст.
Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

*ма́йстар*



**18.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак.

Віця і Дзіма сябруюць. Пасля ўрокаў Дзіма майстраваў самалёт. Віця дапамагаў яму. Добры самалёт атрымаўся ў хлопчыкаў.

Спішыце. Падрыхтуйцеся растлумачыць правапіс выдзеленых літар.



# Будова тэксту

## З якіх частак складаецца тэкст?

**19.** Прачытайце тэкст.

### Сябры

| | |
|---|---|
| За горадам праводзіліся лыжныя спаборніцтвы. Лёгка імчаліся па лыжні хлопчыкі і дзяўчынкі. | Пачатак |
| Міця і Віця ішлі першымі. Раптам Віця пачуў трэск. За воблакам снежнага пылу знік Міця. Ён зламаў лыжу і зваліўся ў роў. Віця хутка з'ехаў па схіле да сябра. З цяжкасцю Віця з Міцем выбраліся з рова. | Асноўная частка |
| У спаборніцтвах перамог іншы хлопчык. Але ўсе лічылі, што Віця паступіў правільна. | Заключная частка, або канцоўка |

На колькі частак падзелены гэты тэкст? Як называецца кожная частка тэксту?

Пра што гаворыцца ў пачатку тэксту?

Што змяшчае асноўная частка?

Пра што расказваецца ў заключнай частцы?

**Як будаваць тэкст**

1. У пачатку тэксту трэба назваць тое, пра што пойдзе гаворка далей.
2. У асноўнай частцы неабходна расказаць пра падзеі.
3. У заключнай частцы робіцца вывад або падводзяцца вынікі.

**20.** Прачытайце тэкст. Якая яго частка адсутнічае?

Усе рэчы ляжаць на сваіх месцах. Кнігі расстаўлены на кніжнай паліцы. Цацкі складзены ў скрынку. На падаконніку стаяць вазоны.

Я сам падтрымліваю парадак у пакоі.

Прыдумайце пачатак і запішыце тэкст.

**21.** Прачытайце. Колькі частак у тэксце? Пра што гаворыцца ў кожнай частцы?

### Лясныя дзіцяняты

Пасля вясенняга абуджэння прыроды наступае час лясных дзіцянят.

Старэйшыя за ўсіх — медзведзяняты. Яны нарадзіліся ў бярлозе зімой. Медзведзяняты любяць лазіць па дрэвах, хадзіць з мядзведзіцай на рэчку. Вось выскачылі на паляну зайчаняты. Каля нары разлягліся і грэюцца на сонейку рыжыя лісяняты. Усе яны радуюцца вясне.

Сустрэнеш маленькіх жыхароў лесу — не крыўдзі іх. Няхай ведаюць, што ў лес прыходзіў сябар *(Паводле У. Сцяпанава)*.

Спішыце заключную частку тэксту.

**22.** Прачытайце пачатак апавядання. Прыдумайце яго працяг.

На беразе лясной рэчкі на пні сядзела вавёрка. У лапках яна трымала яловую шышку і грызла яе. Раптам з лесу выскачыў вялікі сабака...



**23.** Прачытайце тэкст. Прыдумайце да яго загаловак.

Вавёрка зрабіла сваю кладоўку ў дупле старога др..ва. Сюды яна склала ар..хі і ш..шкі. Рыжая непаседа збірае і грыбы. Іх яна натыкае на абламаныя сучкі дрэў і сушыць на запас. Зімой звярок будзе скакаць па галінках і падсілкоўвацца сухімі грыбамі.

Спішыце першыя два сказы, устаўляючы прапушчаныя літары.

**24.** Прачытайце пачатак тэксту. Прыдумайце яго працяг. Выкарыстайце словы і спалучэнні слоў: *выйшаў у сад, згроб снег, насыпаў зерня, прылятАлі да кармушкі.*

### Сінічка

За акном трашчыць мароз. Віця рабіў урокі. Ён пачуў стук у шкло. Стукала сінічка. Вочкі-па́церачкі глядзелі на хлопчыка. Птушка нібы прасіла дапамогі... *(Паводле Н. Надзеждзінай).*

**25.** Прачытайце тэкст. Прыдумайце загаловак. Вызначце пачатак тэксту, асноўную частку і заключную.

Усе кажуць, што ў Алёшкі залатыя рукі. Ён вельмі любіць майстраваць. Тата купіў яму інструменты.



Зімою Алёшка зрабіў кармушку для птушак. Кожны дзень да яе прылятаюць сініцы і вераб'і. Нават сарока іншы раз заглядвае.



Вясною трэба расаду вырошчваць. Алёшка знайшоў дошкі і зрабіў скрынкі. Дзіва што! Гэта ж так проста.

Летам усе дзеці на веласіпедах катаюцца. А ў Алёшкі яго няма. Не доўга думаючы, змайстраваў ён сабе самакат.



Вось такі ён, Алёшка. Што задумае, тое і зробіць.

Вусна перакажыце тэкст.

**26.** Прачытайце тэкст. Прыдумайце загаловак. Што будзе адлюстроўваць загаловак: тэму ці асноўную думку тэксту?

Зімовым сцюдзёным ранкам Дзіма ішоў у школу. На дарозе ўбачыў вераб'я. Верабей не мог лятаць. Хлопчык узяў яго і прынёс у школу.

У школе Дзіма паклаў птушку ў шапку. Верабей сагрэўся, выпырхнуў з шапкі і паляцеў па класе.

Настаўніца адчыніла фортку. Верабей вылецеў і зачырыкаў.

Колькі частак мае тэкст? Пра што гаворыцца ў кожнай частцы?

**27.** Прачытайце словы. З іх дапамогай выкажыце думку (складзіце сказ).

Вечарам, кожны, справай, у, займаецца, сям'і, сваёй.

Запішыце сказ.

**28.** Разгледзьце малюнак і разгарніце думку, выказаную ў папярэднім практыкаванні. Што ў вас атрымаецца?



Прыдумайце і запішыце тэкст. Дайце яму загаловак.

**29.** Прачытайце сказы. Размясціце іх у такой паслядоўнасці, каб атрымаўся тэкст.

### Снеданне вароны

Птушка села на дрэва і пачала арудаваць дзюбай.

Разумная птушка паляцела да ракі і акунула гасцінец у ваду.

Хлеб размяк, і варона пачала снедаць.

Скарынка была цвёрдай.
Яна схапіла сухую скарынку.
Нядаўна да нашай кармушкі прыляцела варона.

Якія словы дапамаглі ўзнавіць тэкст? Прачытайце і дапоўніце ланцужкі сувязей.

Варона, ..., птушка, ..., варона.
Скарынку, скарынка, ..., хлеб.



**30.** Прачытайце тэкст.

### Казуля

У засені* дрэў паказаўся звер. Гэта была казуля. Яна ціха ішла па лесе. Ні адна галінка не скрыпнула пад капыткамі жывёлы. Вось казуля застыла на месцы, павяла вушамі. Адгрэбла яна старое лісце і ўлеглася на голую чорную зямлю *(Паводле М. Сладкова)*.

**За́сень* — месца, зацененае чым-небудзь ад прамянёў сонца.

Знайдзіце словы, якія злучаюць сказы ў тэксце, і запішыце іх.

## Праверце сябе

**1.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму. Прыдумайце загаловак.

У нашым двары расце старая рабіна. Летам пад ёю любіць сядзець дзядуля. Увосень на дрэве прыгожа зіхацяць чырвоныя гронкі ягад. З надыходам зімы да рабіны прылятаюць снегіры. Яны любяць ласавацца сакавітымі ягадамі *(Паводле Р. Ігнаценкі)*.

**2.** Вызначце часткі тэксту.

**Сябры**

Змітрок захварэў. Кожны дзень да яго прыходзілі Пеця і Сярожа. Хлопчыкі чыталі кнігі, разам рыхтавалі дамашнія заданні. Хораша на душы ад сяброўскай увагі!

Спішыце тэкст. Кожную частку пачынайце з чырвонага радка.



# СКАЗ

## Сказ як адзінка мовы



Якія прыметы мае сказ?

**31.** Прачытайце. Колькі ў тэксце сказаў? Як вы даведаліся? Пра што гаворыцца ў кожным сказе?

Шэрыя хмары віснуць над зямлёю. Сыпле дробны снег. Каля хат вырастаюць белыя курганы́.



У сказе выказваецца закончаная думка.

**32.** Прачытайце. Пад якімі нумарамі запісаны сказы?

1. Маладыя вераб'і скачуць па дарожцы.
2. шэры на плоце верабей
3. шукаюць зярняткі
4. Вераб'і весела шчабечуць.

Спішыце сказы.

**33.** Разгледзьце малюнкі. Дапоўніце сказы прапушчанымі словамі. Пра каго гаворыцца ў кожным сказе?



... любіць малако.



... любіць траву.

Запішыце сказы, устаўляючы патрэбныя словы.

**34.** Прачытайце. Колькі тут сказаў?

настаўнік вучыць дзяцей доктар лечыць людзей аграном вырошчвае хлеб

Успомніце, як афармляецца сказ на пісьме. Сказы запішыце.



**Першае слова ў сказе заўсёды пішацца з вялікай літары.**

**35.** Прачытайце словы. Складзіце з іх прыказкі. Якія словы змяніліся?

Без, вучэнне, няма, уменне.
Без, цярпенне, няма, вучэнне.
Усе, з, веды, азбука, пачынаюцца.

Запішыце прыказкі.

Словы ў сказе звязаны паміж сабой. Каб са слоў атрымаўся сказ, словы трэба змяняць.

**36.** Складзіце са слоў два сказы. Змяняйце, калі трэба, словы.

Я, дрэва, на, убачыў, сініца.
Яна, цінькала, сонейка, грэлася, на, весела, і.

Запішыце сказы.



**37.** Прачытайце. Змяніце словы так, каб яны былі звязаны паміж сабой і ўтваралі сказы.

дзеці, фізкультура, урок, любяць
раніцай, з, гімнастыка, робім, брат, мы

Запішыце сказы.

## Знакі прыпынку ў канцы сказаў



На што паказвае знак прыпынку ў канцы сказа?

**38.** Прачытайце сказы, у якіх змяшчаецца паведамленне. Які знак прыпынку стаіць у канцы гэтых сказаў?

На зямлю ціха апускаецца змрок*. У небе загараюцца яркія зоркі. Узыходзіць маладзенькі месячык. Начная цішыня ахутвае наваколле.

**Змрок* — цемра.

*нава́колле*

Запішыце сказы.



**У канцы сказа, які змяшчае паведамленне, ставіцца кропка. Напрыклад: *У небе спявае жаваранак.***

**Голас пад канец такога сказа паступова паніжаецца.**

**39.** Прачытайце. Выдзяляйце голасам канец кожнага сказа.

Як вы пакажаце на пісьме пачатак і канец кожнага сказа?

узышло сонца прачнуліся гарады і вёскі людзі спяшаюцца на працу дзеці ідуць у школу

Запішыце сказы.

**40.** Спішыце. Пастаўце кропкі і замяніце, дзе трэба, малыя літары вялікімі.

Каля дома расце высокая бяроза шэрая птушачка села на галінку кот хацеў злавіць яе дзеці прагналі ката.

Колькі сказаў атрымалася? Гэта тэкст? Чаму?

**41.** Прачытайце тэкст. Колькі ён мае частак?

## Надыход зімы

Апусцелі палі. Надвор'е мяняецца. Радзей бываюць сонечныя дні. Усё часцей цяру́шыць дробны дождж.

У ямцы пад галлём заснуў на ўсю зіму вожык. Лёг у бярлог мядзведзь.

Ціха і сумна ў лесе *(Паводле В. Вольскага)*.

Выпішыце сказы пра звяроў. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць парныя звонкія і глухія зычныя гукі.



**42.** Разгледзьце малюнак. Вусна складзіце па ім тэкст.



наступіў зімовы вечар Маша робіць урокі брат Максім дапамагае ёй

Запішыце тэкст. Правільна аформіце сказы на пісьме.



**43.** Прачытайце. Колькі сказаў? Якія знакі прыпынку трэба паставіць у канцы сказаў?

прыйшла зіма ціха ў лесе снег ухутаў дрэвы і кусты

Запішыце. Правільна аформіце сказы на пісьме. Падкрэсліце слова, у якім тры склады.

**44.** Прачытайце сказы, у якіх змяшчаюцца пытанні. Звярніце ўвагу, які знак прыпынку стаіць у канцы гэтых сказаў.

1. У якім класе ты вучышся?
2. Як завуць тваю настаўніцу?
3. Ці ёсць у цябе сябры?

Напішыце адказы на пытанні.



У канцы сказа, які змяшчае пытанне, ставіцца пытальнік.

Напрыклад: *Як называецца наша краіна?*

**45.** Прачытайце ўрывак з казкі «Лісіца і сабакі». Адкажыце на пытанні.

Якія знакі прыпынку неабходна паставіць у канцы сказаў?



Лісіца пытаецца:
— Вушкі, вушкі, што вы рабілі
— ...
— Ножкі, ножкі, што вы рабілі
— ...
— Вочкі, вочкі, што вы рабілі
— ...

— А ты, хвост, што рабіў

— ...

Спішыце пытанні. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку ў канцы сказаў.

**46.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце пытанні. Выдзеленыя словы вымаўляйце з большай сілай голасу. Вусна адкажыце на пытанні.

1. **Якая** пара года адлюстравана на малюнку?
2. **Хто** катаецца на лыжах?
3. **Што робіць** дзяўчынка?
4. **На чым** катаецца дзяўчынка?



Пры вымаўленні пытальнага сказа голас павышаецца на тым слове, на якое хацелі б атрымаць адказ.

Напрыклад: ***У якім*** *класе ты вучышся? Я вучуся* ***ў другім*** *класе.*

**47.** Прачытайце пытанні і адказы на іх. Выдзяляйце голасам тыя словы, у якіх заключаны пытанні і адказы на іх.

Дзе жыве вавёрка?
Вавёрка жыве ў лесе.

Дзе вавёрка робіць гняздо?
Гняздо вавёрка робіць у дупле дрэва.

Чым харчуецца вавёрка?
Вавёрка харчуецца арэхамі, насеннем з сасновых шышак, сушанымі грыбамі.

Спішыце першае пытанне і адказ на яго.
Які знак стаіць у канцы пытальнага сказа?



**48.** Запішыце адказы на пытанні. Выкарыстайце подпісы да малюнкаў.

*страус*



*калібры*



1. Якая птушка самая вялікая?
2. Якая птушка самая маленькая?

**49.** Прачытайце сказы, якія выражаюць загад або заклік. Які знак прыпынку стаіць у канцы гэтых сказаў?

Зара, ярчэй гары! Прачынайся, зямля!

Спішыце сказы. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя.



У канцы сказа, які вымаўляецца з моцным пачуццём, ставіцца клічнік: *Да пабачэння, буслы! Да радаснай сустрэчы вясной!*

**50.** Прачытайце сказы беларускіх пісьменнікаў так, каб перадаць радасць, захапленне. Спішыце першы сказ.

Мамачка, ружы расцвілі! Як хораша! *(Д. Слаўковіч)*.

Добра ў лузе ў час палудны! Лёгка там дыхнуць! *(Я. Колас)*.

Прыдумайце сказ, у якім выкажыце радасць.

**51.** Прачытайце. Як вымаўляецца кожны сказ? Якія знакі прыпынку тут патрэбны?

### Рабочыя рукі

— Хто ўзвёў заводы і школы
— Рабочыя рукі
— Хто вырасціў багаты ўраджай
— Рабочыя рукі
— Хто пабудаваў касмічныя караблі
— Рабочыя рукі
— Слава людзям працы
— Слава рабочым рукам

Пры спісванні пастаўце ў канцы кожнага сказа патрэбны знак прыпынку.

**52.** Прачытайце сказы так, як падказваюць знакі прыпынку. У чым будзе розніца?

Спішыце сказ, які ўтрымлівае пытанне.

Добрая горка атрымалася.
Добрая горка атрымалася!
Добрая горка атрымалася?

Прыдумайце свой сказ па гэтым узоры.



**53.** Разгледзьце малюнак.



Складзіце па малюнку тэкст, каб у ім быў сказ-пытанне.



**54.** Прачытайце тэкст. Што выражае кожны сказ (паведамленне, пытанне, загад)? Якія знакі прыпынку трэба паставіць у канцы сказаў? Запішыце тэкст.

Задаюць пытанні дзеці
Ім цікава ўсё на свеце
Чаму сонейка пячэ
Адкуль рэчанька цячэ

*М. Валько.*

## Слова, якое абазначае, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе

**55.** Складзіце сказы па малюнках. Пра каго гаворыцца ў кожным сказе?





Сказ звычайна будуецца так, што ў ім пра каго-небудзь або пра што-небудзь гаворыцца.

Слова, якое абазначае, пра каго або пра што гаворыцца ў сказе, адказвае на пытанне х т о? або ш т о? Гэта слова падкрэсліваецца адной лініяй. Напрыклад: (Х т о?) *Хлопчык спявае.*

**56.** Прачытайце. Пра каго або пра што гаворыцца ў кожным сказе?

Наступіла зіма. Дзеці ідуць гуляць у парк. Яша ўзяў санкі. Сябры катаюцца з горкі.

Спішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго або пра што гаворыцца ў сказах.

**57.** Замест кропак устаўце словы, якія абазначаюць, пра каго (пра што) гаворыцца ў сказах.

(Х т о?) … пайшлі на экскурсію.
Ярка свяціла (ш т о?) … .
(Ш т о?) … зацягнулі неба.
(Х т о?) … заспяшаліся дамоў.

Словы для даведкі: *сябры, хмары, сонейка, дзеці.*

**58.** Складзіце са слоў сказы і запішыце.

Сонца, хмарку, за, зайшло.
Лёгкія, па, небе, плывуць, воблачкі.

**59.** Прачытайце загадкі. Пра каго (пра што) у іх гаворыцца?

**Што** ляціць без крылаў?
**Хто** на сабе хату носіць?
**Хто** над намі дагары нагамі?








Пастаўце замест пытальных слоў словы-адгадкі і запішыце сказы. Ці зменіцца знак прыпынку ў канцы сказаў? Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго (пра што) гаворыцца ў сказах.



**60.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары. У кожным сказе падкрэсліце слова, якое адказвае на пытанне х т о? або ш т о?

Снег л..жыць на палях мяккім дыванам.
М..дзведзь спіць у б..рлагу́.
Вавёрка скача з галінкі на галінку.
На палянку выскачыў маленькі спалоханы зайчык.

## Слова, якое абазначае, што гаворыцца аб прадмеце гутаркі

**61.** Прачытайце сказ.

Вучань чытае.

х т о? ←——→ ш т о р о б і ц ь?

↓ вучань ↓ чытае

Пра каго гаворыцца ў сказе? Падкрэсліце гэта слова адной лініяй.

Што гаворыцца пра вучня? Падкрэсліце гэта слова дзвюма лініямі.

У сказе вызначаецца слова, якое абазначае тое, што гаворыцца аб прадмеце гутаркі. Яно адказвае на пытанні ш т о р а б і ў? ш т о р о б і ц ь? ш т о р о б я ц ь? ш т о з р о б я ц ь? Гэта слова ў сказе падкрэсліваецца дзвюма лініямі.

(Х т о?) *Вучні* (ш т о з р а б і л і?) *наведалі музей.*

**62.** Прачытайце сказы. Назавіце словы, якія абазначаюць, пра каго гаворыцца ў сказах і што гаворыцца.



Спіць сава ў дупле на пуховым крыле.



Мышка ціхенька ў кутку зерне меле на муку.



Па сцяжынцы мышанятка коціць спелае зярнятка.

Спішыце сказы. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**63.** Прачытайце. Пра што гаворыцца ў кожным сказе? Што пра гэта гаворыцца?

Зелянее рунь на палях шырокіх.
Самалёт ляціць над вёскай.
Нізка над зямлёю сцелецца туман.

Спішыце. Падкрэсліце ў кожным сказе слова, якое адказвае на пытанне *што?*, адной лініяй, а на пытанне *што робіць?* — дзвюма.

**64.** Прачытайце сказы. Словы ў дужках змяніце, як патрабуе сэнс. Якія літары трэба пісаць у канцы змененых слоў? Чаму?

*(Маразы)* скаваў раку. *(Снягі)* ухутаў зямлю. Але дзяцей не пужае *(халады)*.

Запішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра што гаворыцца ў сказах і што пра гэта гаворыцца.

**65.** Прачытайце, устаўляючы патрэбныя словы.

Галодны воўк ... па лесе.
... палюе на мышэй.
Дзік ... жалуды.
... дзяўбе яловыя шышкі.
Вавёрка ... арэхі.

Словы для даведкі: *ліса, збірае, блукае, грызе, дзяцел.*

Запішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя словы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго гаворыцца ў сказах і што гаворыцца.

**66.** Прачытайце тэкст. Прыдумайце загаловак. Назавіце словы, якія абазначаюць, пра што гаворыцца ў сказах і што пра гэта гаворыцца.

Каля вёскі цячэ шырокая рака. Розныя рыбы жывуць у ёй.

Пад карчагай спіць вусаты сом. Ашчацініўся калючы ёрш. Блішчаць срэбныя плоткі. Дрэмле карась.

А зубасты шчупак прытаіўся. Драпежная рыба выйшла на паляванне. Сцеражыся, рачны народ!

Спішыце два першыя сказы.



**67.** Дапоўніце сказы словамі, якія адказваюць на пытанне ш т о р о б я ц ь?

Ры**б**кі ... у акварыуме.
Пту**ш**кі ... .
Дзеці ... цікавую казку.

Запішыце сказы. Падкрэсліце ў кожным сказе слова, якое адказвае на пытанне х т о?, адной лініяй, а на пытанне ш т о р о б я ц ь? — дзвюма.

Да слоў з выдзеленымі літарамі падбярыце праверачныя.



# Сувязь слоў у сказе

## Як вызначыць сувязь слоў у сказе?

**68.** Прачытайце.

мяккі снег лятае пух

Чаму гэтыя словы нельга назваць сказам? Складзіце сказ. Пастаўце пытанне да слова *пухам*.



Словы ў сказе звязаны па сэнсе.

**69.** Прачытайце. Вызначце сувязь слоў у кожным сказе.

**Веснавое** сонца **росы** падбірае.

Вылецела **ў поле** пчолка **залатая.**

Запішыце сказы разам з пытаннямі да выдзеленых слоў.

**У з о р.** (Я к о е?) *Веснавое сонца* (ш т о?) *росы падбірае.*



**Сувязь слоў у сказе вызначаецца па пытаннях.**

**70.** Змяніце словы ў дужках, як патрабуе сэнс, і запішыце сказы. Да змененых слоў вусна пастаўце пытанні.

З *(поўнач)* дзьмуць *(халодны)* вятры.
Над *(зямля)* навіслі *(снегавы)* хмары.
Ціха шумяць *(стары)* дрэвы.

**71.** Прачытайце. Колькі тут сказаў? Як вы разважалі, калі дзялілі тэкст на сказы?

У другім сказе вызначце сувязь слоў.

зіма толькі пачалася **лёгкі** марозік пакрыў лужыны тонкім **лядком** сняжынкі апускаюцца на зямлю ветрык кружыць іх у белым танцы

Запішыце сказы. У выдзеленых словах падкрэсліце літары, напісанне якіх трэба правяраць.

Якая тэма гэтага тэксту? Прыдумайце загаловак, у якім будзе выказана тэма тэксту.

**72.** Складзіце з прапанаваных слоў сказы. Растлумачце іх сэнс.

Кніга, пра, усё, расказваць.
Розум, мацнейшы, за, сіла.

Запішыце сказы.

Складзіце адзін-два сказы пра сваю школу і запішыце іх.



**73.** Спішыце. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго (пра што) гаворыцца ў сказах і што гаворыцца. Вусна пастаўце пытанні да выдзеленых слоў.

Віця злавіў **мяч.**
Вучань нясе **рукзак** з кнігамі.
**Тонкая** сцяблінка трымае **ва́жкі колас.**

**74.** Прачытайце. Што абазначаюць выдзеленыя словы? Замест кропак устаўце словы.

(Я к і?) … **мароз шчыпле** (ш т о?) … .
**Дрэвы пакрыліся** (ч ы м?) … .

Запішыце сказы.

Словы для даведкі: *моцны, інеем, твар.*

**75.** Дапоўніце сказы па пытаннях.

Дзеці ўсяго свету хочуць (ч а г о?) ... . Хай заўжды над (ч ы м?) ... свеціць (я к о е?) ... сонца!

Словы для даведкі: *яснае, міру, зямлёй*.

**76.** Складзіце са слоў сказы. Вусна вызначце ў іх сувязь слоў (па пытаннях).

У, полі, чыстым, вецер, гуляе.
Хвалі бягуць, моры, сінім, у.
Снегавыя, у, хмары, небе, плывуць.

Запішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра што гаворыцца ў сказах і што пра гэта гаворыцца.

**77.** Складзіце сказы па схемах.

(Якія?) (хто?) (што робяць?) (дзе?) .

(Хто?) (што зрабілі?) (куды?) .

Запішыце сказы.

**78.** Прачытайце сказы. Пра каго ці пра што гаворыцца ў кожным з іх? Што гаворыцца?

 піша  .

З рук  вырваўся  .

Запішыце сказы. Пакажыце стрэлкамі, ад якога слова да якога ставіцца пытанне.

У з о р. *Падае мяккі снег.*



**79.** Са спалучэнняў слоў складзіце сказы.

| | |
|---|---|
| стракаты дзяцел | звіняць у кустах |
| даўганогі бусел | стукае па дрэве |
| шэрая зязюля | ходзіць па балоце |
| вясёлыя сініцы | кукуе ў лесе |

Запішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго гаворыцца ў сказах і што гаворыцца.

## Праверце сябе

**1.** Прачытайце. Пад якімі нумарамі запісаны сказы, а пад якімі — набор слоў?

1. З, выраю, вяртацца, ластаўкі.
2. Ластаўкі вярнуліся з выраю.
3. Ён, хацець, вучыцца.
4. Я старанна вучуся.

**2.** Спішыце сказы, пастаўце ў канцы патрэбныя знакі прыпынку.

1. Які прыгожы дзяцел
2. Галоўка ў птушкі чырвоная, а спінка чорная
3. На крыльцах белыя плямкі і палоскі
4. А вы бачылі дзятла

**3.** Прачытайце сказы. Вызначце словы, якія абазначаюць, пра каго (пра што) гаворыцца ў сказах і што пра гэта гаворыцца.

1. У небе звініць жаваранак.
2. Дзеці спявалі вясёлую песеньку.
3. Да сасны прыхілілася маладая бярозка.



# СЛОВА

## Слова як моўная адзінка



Для чаго патрэбны словы?

**80.** Прачытайце тэкст.

У бабулі быў сабачка. Жвавы, з вясёлымі вочкамі, чорненькі такі. Звалі яго Жучком.

Аднойчы бабуля занядужала. «Хуткая дапамога» забрала яе ў бальніцу. Жучок ляжаў каля ганка. Ён разумеў, што трэба вартаваць хату *(Паводле Я. Крамко)*.

Адкажыце на пытанні.

1. З чаго складаецца тэкст?
2. З чаго складаюцца сказы?

**81.** Прачытайце. Як вы разумееце выказванні знакамітых пісьменнікаў?

…Для ўсяго, што існуе ў прыродзе, у мове ёсць вялікае мноства добрых слоў і назваў *(К. Ушынскі)*.

Слова — гэта адзенне ўсіх думак *(Максім Горкі)*.

Час праходзіць, а сказанае слова застаецца *(Л. Талстой)*.

**82.** Прачытайце групы слоў. Складзіце з іх прыказкі. Падумайце, чаму так гавораць.




Запішыце адну прыказку (на выбар).

Назавіце словы, у якіх літар больш, чым гукаў.

**83.** Прачытайце.

**Мы жывём у цудоўнай краіне.**

Назавіце словы, з якіх складаецца сказ. Пастаўце да іх пытанні. Як пішуцца словы ў сказе: асобна ці разам?

**84.** Прачытайце.

**Сняжынкі, ручаі, гурбы, шпакі, мяцеліца, капяжы, мароз, вясёлка, падснежнік, сонца, вясна.**

Што вы ўяўляеце, калі чытаеце кожнае слова?

Якія словы можна ўключыць у тэкст пра вясну? Растлумачце свой выбар. Выпішыце гэтыя словы. Складзіце з імі сказы.



**85.** Спішыце тэкст. Падрыхтуйцеся растлумачыць правапіс выдзеленых літар.

**Нізка віснуць над зямлёю**
**хмары снегавыя.**
**Свішча вецер за сцяною,**
**у коміне вые.**

*Я. Колас.*

# Значэнне слова



Што галоўнае ў слове?

Дзе даведацца пра значэнне незразумелага, невядомага слова?

**86.** Прачытайце словы. Што абазначае кожнае з гэтых слоў?

Агурок — ..., ластаўка — ..., талерка — ..., яблык — ..., шчупак — ..., шафа — ..., чарніцы — ..., карова — ..., паліто — ..., ружа — ..., воўк — ..., аўтобус — ... .

Словы для даведкі: *ягады, агароднiна, звер, посуд, вопратка, транспарт, садавiна, кветка, мэбля, жывёлiна, птушка, рыба.*



***Значэнне слова*** — гэта яго сэнс, тое, што слова абазначае.

**87.** Запiшыце адным словам.

Прамежак часу, роўны 12 месяцам.
Прыём ежы, звычайна ў сярэдзiне дня.

**Атмасферныя ападкі ў выглядзе ледзяных шарыкаў.**

**Буйны́ звер, які зімой спіць у берлагу, любіць мёд.**

Ці правільна вы абазначылі літарамі апошнія гукі ў словах? Складзіце сказ з адным словам (на выбар).

**Галоўнае ў слове — гэта яго значэнне.**
**Значэнні слоў раскрываюцца ў тлумачальным слоўніку.**

**88.** Прачытайце словы на тэму «Адзенне і абутак» у слоўніку на с. 121. Выпішыце словы, значэнняў якіх не ведаеце. Даведайцеся іх значэнні.



**89.** Прачытайце. Якое значэнне мае слова *хлеб* у сказах?

У мінулым годзе сабралі багаты ўраджай хлеба.

У дзедавай хаце прыемна пахла цёплым хлебам.

Для даведкі.

***Хлеб.***

1. *Прадукт харчавання, які выпякаецца з мукі.*

2. *Збожжа, абмалочанае зерне.*



Ад значэння слова залежыць яго напісанне.

**90.** Выберыце патрэбныя словы і запішыце сказы.

Маленькі *(Шарык, шарык)* добра вартуе хату.

Сяброўка *(Лілія, лілія)* прынесла мне *(Лілію, лілію)*.



**91.** Прачытайце. Падрыхтуйцеся растлумачыць значэнні выдзеленых слоў.

Мама, тата, сястра, бабуля, дзядуля, **пасажыр, чытач, бібліятэка**.

Спішыце словы ў алфавітным парадку.



## Колькі значэнняў можа мець слова?

**92.** Разгледзьце малюнкі. Якія значэнні мае слова *ручка*?











**Слова можа мець адно або некалькі значэнняў.**

**93.** Прачытайце сказы. Растлумачце значэнні выдзеленых слоў.

Паляцелі ў вырай **аўсянкі** і ластаўкі.
Брат купіў у магазіне кілаграм **аўсянкі**.

**94.** Прачытайце. Якія значэнні мае слова *мухалоўка*?

### Дзве мухалоўкі

1. Мухалоўка меншая за вераб'я. Мухалоўкі ловяць мух, матылёў і вусеняў. Яны жывуць у парках, садах, лясах. Мухалоўка — гэта ... .

2. У мухалоўкі ядавітыя лісты. Лісты ловяць насякомае, як пастка. Мухалоўка — гэта ... .

Спішыце тэкст пра адну з мухаловак (на выбар), устаўце патрэбнае слова.

**95.** Разгледзьце малюнкі, прачытайце словы. Што абазначае кожнае з іх?



шарык Шарык



Галінка галінка

**96.** Прачытайце сказы.



Каля школы вучні пасадзілі рад вішань.

Мама зварыла смачнае варэнне з вішань.

Вызначце, у якім сказе слова *вішні* ўжыта ў значэнні «вішнёвае дрэва», а ў якім — у значэнні «плады вішнёвага дрэва».

**97.** Складзіце сказы са спалучэннямі слоў.

**Сярэбраны** іней, **сярэбраны** пярсцёнак; **дарагі** тавар, **дарагі** чалавек.

Што абазначаюць выдзеленыя словы?

Для даведкі.

***Сярэ́браны.***
1. *Колерам падобны да серабра.*
2. *Зроблены з серабра.*

***Дарагí.***
1. *Мае высокую цану.*
2. *Мілы, любімы.*



**98.** Разгледзьце малюнкі. Што можа абазначаць слова *іголка*?







Складзіце і запішыце сказы са словам *іголка* ў розных значэннях.

**99.** Разгледзьце малюнкі. Надпісы пад імі абазначаюць адно і тое ж ці рознае?



*бегемот*



*гіпапатам*



*бяжыць*



*імчыцца*

Розныя па гучанні словы могуць мець аднолькавае або блізкае значэнне. Напрыклад: *дарога, шаша; ісці, крочыць.*

**100.** Прачытайце. Знайдзіце ў тэксце словы, блізкія па значэнні. Выпішыце іх.

*калекты́ў*

### Хто мы такія?



Маша адказвае:
— Мы школьнікі.
Пеця дадае:
— Мы вучні.
Віця кажа:
— Мы дзеці.
— Мы яшчэ і аднакласнікі, — нагадвае Юра.

— Усе вы — сябры, — адзначае настаўніца. — А яшчэ можна сказаць, што вы — калектыў*.

**Калекты́ў* — група людзей, аб'яднаных агульнай працай і інтарэсамі.

**101.** Прачытайце словы. Знайдзіце сярод іх блізкія па значэнні.

Пілот, шэрань, холад, смеласць, адвага, сцюжа, іней, лётчык.

Запішыце словы па ўзоры.

Узор. *Пілот — лётчык.*



**102.** Прачытайце тэкст. Назавіце словы, блізкія па значэнні. Раскажыце, як трэба пераходзіць вуліцу.



Імчацца па вуліцах сталіцы машыны, бягуць па рэйках трамваі, коцяцца тралейбусы. Але Пеця іх не баіцца. Чаго іх баяцца, калі не парушаеш правіл дарожнага руху?

**103.** Дакажыце, што запісаныя ніжэй словы блізкія па значэнні. Выкарыстайце матэрыял для даведкі.

Мяцеліца, завіруха, завея;
алфавіт, азбука;
казюлька, казяўка;
асілак, волат.

Для даведкі.
*Моцны вецер са снегам.*
*Пералік літар у пэўным парадку.*
*Усякае дробнае насякомае.*
*Герой народных казак, надзелены незвычайнай сілай.*



**104.** Прачытайце. Замяніце выдзеленае слова блізкімі па значэнні.

Чалавек **ідзе**. Тралейбус **ідзе**. Дождж **ідзе**. Вясна **ідзе**. Гадзіннік **ідзе**.

Запішыце новыя сказы.

Словы для даведкі: *наступае, паказвае час, лье, крочыць, едзе*.

**105.** Прачытайце тэкст. Якімі словамі перадаецца маляўнічасць прыроды?

Растлумачце значэнне выдзеленых слоў.

Стройныя сосны і кучаравыя елкі **абдымаюць** поле. Пазалочаныя бярозкі дапамагаюць сонцу праганяць з лесу змрок. **Гараць** чырвоныя гронкі рабіны. Маладзенькія асіны трымцяць* ад лёгкага павеву ветрыку *(Паводле У. Шахаўца)*.

Спішыце. Падкрэсліце літару, якая не абазначае гука.

**Трымце́ць* — дрыжаць, калаціцца.

**106.** Разгледзьце малюнак. Закончыце сказы.



Міша высокі, а Коля ... .

У Мішы вялікі цяжкі рукзак, а ў Колі ... ... .

У Мішы светлыя валасы, а ў Колі ... .

Якімі словамі вы дапоўнілі сказы: блізкімі па значэнні ці супрацьлеглымі?

Словы бываюць супрацьлеглымі па значэнні. Напрыклад: *чорны — белы*.

**107.** Падбярыце супрацьлеглыя па значэнні словы.

| | |
|---|---|
| ноч — ... | ранні — ... |
| раніца — ... | гучны — ... |
| спёка — ... | шырокі — ... |
| смех — ... | блізкі — ... |

Запішыце словы парамі.

**108.** Да выдзеленых слоў з левага слупка падбярыце супрацьлеглыя па значэнні словы з правага слупка.

| | |
|---|---|
| **старая** хата | складанае |
| **свежы** хлеб | вільготнае |
| **сухое** паветра | новая |
| **лёгкае** заданне | чэрствы |

Запішыце па ўзоры. Падкрэсліце словы, супрацьлеглыя па значэнні.

У з о р. *Стары сад — малады сад.*



**109.** Прачытайце прыказкі.

Новых сяброў набывай, ды старых не забывай.

За в**я**лікім пагонішся — і малое згубіш.

Менш гавары, а бол**ь**ш рабі.

Спішыце прыказкі. Падкрэсліце словы з супрацьлеглым значэннем.

Падрыхтуйцеся растлумачыць правапіс выдзеленых літар.

## Словы, якія абазначаюць прадметы



Чаму да слоў, якія абазначаюць прадметы, ставяцца розныя пытанні: **х т о?**, **ш т о?**

**110.** Разгледзьце малюнак. Назавіце, хто жыве ў лесе, што расце ў лесе.



Запішыце па ўзоры.

У з о р. (Х т о?) *Дзікі*, ... .
(Ш т о?) *Бярозы*, ... .



Словы, якія абазначаюць прадметы, адказваюць на пытанні **х т о? ш т о?** Напрыклад: (х т о?) *дзядзька, чалавек, птушка*; (ш т о?) *дрэва, акуляры, мост*.




**111.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Назавіце ў кожным сказе словы, якія абазначаюць прадметы. На якія пытанні яны адказваюць?

Весела свеціць сонейка. **Залівaецца** школьны званок. Дзеці са смехам **вы́сыпалі** на двор. Хлопчыкі з захапленнем ганяюць на стадыёне мяч. Дзяўчынкі скачуць цераз скакалку.

*стадыён*

Да выдзеленых слоў падбярыце словы, блізкія ім па значэнні.



Да слоў, якія абазначаюць жывых істот — людзей, жывёл, — ставіцца пытанне к т о?: *бабуля, конь, салавей, муха.*

Да слоў, якія абазначаюць нежывыя прадметы, ставіцца пытанне ш т о?: *горад, дом, вада, сонца.*

**112.** Спішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія адказваюць на пытанне к т о?

У пушчы не моўкне птушыная песня. Свішча шпак, стракоча сарока, кукуе зязюля, клякоча бусел.

**113.** Выпішыце спачатку словы, якія абазначаюць адзін прадмет, а потым — словы, якія абазначаюць многа прадметаў.

Сад, садоўнікі, будынкі, будаўнік, школа, дзеці, вучаніца, шпакі, шпакоўня, мора, маракі.

На якія пытанні адказваюць гэтыя словы?

**114.** Прачытайце. Што ўбачылі вучні ў Мінску?

*тэа́тр*

Вучні прыехалі на экскурсію ў Мінск. Дзеці з цікавасцю разглядалі вялікія будынкі і шырокія праспекты. Асабліва ўразіў іх будынак Нацыянальнай бібліятэкі. У тэатры вучні паглядзелі лялечны спектакль.

*спекта́кль*



Спішыце тэкст, падкрэсліце словы, якія адказваюць на пытанне ш т о?



**115.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту назвы птушак. На якое пытанне адказваюць гэтыя словы?

На дварэ прыгравае ласкавае сонейка. У небе звонка спявае жаваранак. Пад страхой дружна шчабечуць ластаўкі. Вераб'і ў цёплым пяску купаюцца. Высока ў сінім небе распластаў крылы каршун. Ён сочыць пільным вокам за куранятамі *(Паводле М. Даніленкі)*.

## Напісанне слоў з вялікай літары



Якія словы пішуцца з вялікай літары?

**116.** Прачытайце.

Ідуць тры хлопчыкі. Нехта паклікаў:
— Хлопчык!
Усе трое азірнуліся.

Чаму азірнуліся ўсе хлопчыкі?
Для чаго людзям даюцца імёны?

**117.** Прачытайце. Вызначце імёны, імёны па бацьку, прозвішчы.

Хлопчык Коля, дзяўчынка Таня, сяброўка Галя, вучань Бадрусёў Антон, настаўніца Марыя Паўлаўна.



Імёны, імёны па бацьку і прозвішчы пішуцца з вялікай літары: *Іван Дамінікавіч Луцэвіч*.

**118.** Прачытайце. Што абазначаюць выдзеленыя словы?

Іван **Іванавіч**, Лідзія **Фёдараўна**, Вольга **Ігараўна**, Мікалай **Георгіевіч**.

Здагадайцеся, як завуць бацькоў гэтых людзей.

Спытайцеся ў суседа па парце імя яго бацькі. Цяпер назавіце свайго таварыша па імені і імені па бацьку.

**119.** Запішыце сказы, устаўце імя і прозвішча.

У Светы *(прозвішча)* ёсць брацік *(імя)*.
Дзіма чытае вершы *(прозвішча аўтара)*.

**120.** Прачытайце тэкст. Назавіце словы, якія пішуцца з вялікай літары.

Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

### Спартыўныя спаборніцтвы

На стадыёне сабралася шмат людзей. Там праходзілі спартыўныя спаборніцтвы. Галоўным суддзёй быў настаўнік Валерый Пятровіч. Першае месца па бегу заняла другакласніца Васіліна. Яе сяброўка Святлана далей за ўсіх скочыла ў даўжыню. Скачкі ў вышыню выйграў наш аднакласнік Алег. Усе пераможцы атрымалі шакаладныя медалі *(Паводле В. Гурскага)*.

Выпішыце імёны, імёны па бацьку.

*вы́йграць*



**121.** Дапішыце сказы.

Маё прозвішча, імя, імя па бацьку … … … . Майго тату завуць … … . Маю маму завуць … … .

Падрыхтуйцеся растлумачыць напісанне слоў з вялікай літары.

**122.** Прачытайце тэкст. Растлумачце правапіс выдзеленых літар у словах.

Васіль Іванавіч і Тамара Мікалаеўна працуюць у заапарку. Раніцай ветэрынары абходзяць усіх жывёл. Мядзведзь Таптыгін задаволены. Яму далі кавалачак цукру. Лісяняці Рыжыку таксама хочацца гасцінца. Даглядаць звяроў дапамагаюць Коля Голуб і Маша Сініцына.



Выпішыце з тэксту словы па групах.

*Імёны:* ..., ..., ..., ... .
*Імёны па бацьку:* ..., ... .
*Прозвішчы:* ..., ... .
*Клічкі:* ..., ... .



Клічкі жывёл пішуцца з вялікай літары: *сабака Жук, карова Ночка*.

**123.** Спішыце сказ, падкрэсліце вялікую літару ў клічках жывёл.

У нашага суседа Віктара Пятровіча ёсць сабака Палкан і кот Маркіз.

**124.** Прачытайце. Дапоўніце сказы клічкамі жывёл.

Смятану любіць кот ... .
Грызе костку сабака ... .
У нас гадуецца цялушка ... .
На лузе пасецца конь ... .

Словы для даведкі: *(Ш/ш)арык, (Л/л)ыска, (М/м)урлыка, (О/о)рлік*.

Запішыце сказы.

**125.** Спішыце, устаўляючы патрэбную літару.

Налавіў унучак *(К/к)*арпаў акунёў, язёў і *(К/к)*арпаў *(У. Мацвеенка)*.

**126.** Разгледзьце малюнкі. Дайце клічкі сабаку, каню, курыцы.





Складзіце і запішыце сказы, выкарыстайце прапанаваныя словы.

Словы для даведкі: ***Пяструшка, Орлік, Рэкс, вартуе дом, імчыцца як вецер, знесла яечка.***



**127.** Прачытайце. Успомніце казку і падрыхтуйцеся расказаць яе.

Жылі ў адным двары курачка Раба, гусак Шыпун і індык Балбатун...

Выпішыце назвы свойскіх птушак і іх клічкі.

Прыдумайце і запішыце свае клічкі дзіцянятам свойскай жывёлы: цяляці, жарабяці, парасяці.

**128.** Прачытайце. Гэта тэкст ці асобныя сказы?

Прыгожая і ўтульная Беларусь! Раскінуліся на рацэ Прыпяць гарады: Пінск, Тураў, Петрыкаў, Мазыр. Стаяць на беразе Дзвіны старажытныя Полацк і Віцебск. Мне ўсюды хацелася б пабываць *(Паводле Я. Сіпакова)*.

Спішыце. Падкрэсліце назвы гарадоў, рэк.



Назвы краін, гарадоў, вёсак, вуліц, рэк, азёр пішуцца з вялікай літары: *горад Мінск, вёска Вязынка, вуліца Арлоўская, рака Нёман, возера Нарач.*



**129.** Пісьмова адкажыце на пытанні.

Як называецца наша краіна?
У якім горадзе ці вёсцы ты жывеш?
На якой вуліцы знаходзіцца твой дом?
Як называецца вуліца, на якой размешчана школа?

**130.** Спішыце. Растлумачце напісанне вялікай літары.

### Наша сталіца

Мінск — сталіца Рэспублікі Беларусь. На плошчы Незалежнасці знаходзіцца Дом урада.

Галоўная вуліца Мінска — праспект Незалежнасці.

У Мінску ёсць падземная чыгунка — метро.

*метро́*







**131.** Прачытайце назвы беларускіх рэк.

Прыпяць, Ясельда, Пціч, Арэса, Дняпро, Свіслач, Вілія, Бярэзіна, Шчара, Сож.

Запішыце словы ў алфавітным парадку.

**132.** Прачытайце. Растлумачце напісанне вылучаных літар.

У *(К/к)*ацярыны *(П/п)*аўлаўны ёсць **у**нукі. *(М/м)*іша і *(В/в)*іця часта наведваюць бабулю. Яны прыносяць ёй хле**б** і малако. Бабуля частуе **ў**нукаў чаем з пернікамі.

Выпішыце з тэксту імёны і імёны па бацьку, падкрэсліце ў іх першыя літары.

Прыдумайце загаловак да тэксту.

**133.** Прачытайце тэкст, устаўце прапушчаныя словы. Спішыце. Падкрэсліце вялікую літару ў словах. Растлумачце яе напісанне.

Гэта было на возеры ... каля вёскі ... . Хлопчыкі ... і ... лавілі рыбу. З імі быў сабака ... . Дзіма аступіўся і ўпаў у ваду. На дапамогу яму кінуліся ... і сабака ... . Яны дапамаглі ... вылезці на бераг.

Словы для даведкі: *Чырвонае, Лутоўе, Дзіма, Тузік, Міхась, сябру.*

**134.** Спішыце тэкст, выбіраючы з дужак патрэбныя літары.

За вёскай *(К/к)*амуна раскінуўся вялікі лес. *(Г/г)*аля і *(Дз/дз)*іма любілі хадзіць туды ў грыбы і ягады. Іх сабака *(П/п)*алкан заўсёды дапамагаў дзецям шукаць грыбы.

**135.** Напішыце адказы на пытанні.

1. Як завуць твайго лепшага сябра?
2. У якой вёсцы (горадзе) і на якой вуліцы ён жыве?
3. Творы якога пісьменніка ты любіш чытаць?



**136.** Дапішыце сказы.

Мы жывём у вёсцы ... (у горадзе ..., у пасёлку ...).

Наша школа знаходзіцца на вуліцы ... (у вёсцы ...).

Дырэктара школы завуць ... ... .

Мы хадзілі на экскурсію з нашай настаўніцай ... ... .

## Словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў



На якія пытанні адказваюць словы, што абазначаюць прыметы прадметаў?

**137.** Прачытайце. Назавіце з тэксту словы, якія абазначаюць прыметы яблыка.



Вожык намаляваў яблык і папрасіў сяброў назваць яго прыметы.

— Чырвоны! — крыкнуў Заяц.

— Смачны, салодкі, — адзначыў Мядзведзь.

— Круглы, вялікі, — хітра ўсміхнулася Ліса.

Заяц назваў прымету па колеры. Мядзведзь ведае яблык на смак. А Ліса ўбачыла форму і памер яблыка.

Запішыце прыметы яблыка.

У з о р. *Яблык* (я к і?) ..., ..., ..., ..., ... .



Словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў, адказваюць на пытанні я к і? (я к а я? я к о е? я к і я?): *салодкі (мёд), маленькая (вёсачка), разумнае (дзіця), высокія (горы).*

**138.** Прачытайце. Прыдумайце словы, якія падыходзяць па сэнсе.

У з о р. *Ліса* (я к а я?) *рыжая, хітрая.*

Воўк (я к і?) ..., ... .
Заяц (я к і?) ..., ... .
Вавёрка (я к а я?) ..., ... .
Вожык (я к і?) ..., ... .

Запішыце па ўзоры. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў, хвалістай лініяй.



**139.** Вусна складзіце некалькі сказаў пра любога звера. Дайце загаловак свайму тэксту. Якія словы, што абазначаюць прыметы прадметаў, вы выкарысталі?

**140.** Прачытайце. Назавіце словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў. На якія пытанні яны адказваюць?

*цвёрды*

Духмяны хлеб, яблыневы сад, цёмныя ночы, новая школа, цвёрдая гліна, цвёрдае слова, цікавая кніга, сонечныя прамяні.

**141.** Прачытайце назвы прадметаў. Параўнайце іх па адной прымеце.

*Па смаку*. Цукар (я к і?) салодкі, а лімон … .

*Па колеры*. Мел (я к і?) белы, а вугаль … .

*Па велічыні*. Каршун (я к і?) вялікі, а верабей … .

*Па шырыні*. Сцежка (я к а я?) вузкая, а дарога … .

*Па ўзросце*. Дзядуля (я к і?) стары, а ўнук … .

Запішыце сказы, устаўце словы, якія падыходзяць па сэнсе.



**142.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх.

Хто зялёнымі вачамі
грозна бліскае начамі?
Мае пухленькія лапкі,
мае кіпцікі-царапкі?
Спінку пругка выгінае,
страх на мышак наганяе?

*У. Мацвеенка.*





Па дарожцы скок ды скок
чорны хвост і белы бок.

*Р. Бохан.*

Выпішыце словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў.

**143.** Прачытайце словы. На якія пытанні яны адказваюць? Прымету аднаго ці некалькіх прадметаў абазначаюць?

Новы, высокая, блакітнае, далёкі, моцная, зоркае, цудоўны, найлепшы.

Змяніце словы так, каб яны абазначалі прыметы некалькіх прадметаў. Якое пытанне вам дапаможа?

**144.** Прачытайце. Знайдзіце словы, якія абазначаюць прадметы і іх прыметы. Пастаўце да іх пытанні.

### Васільковы бант

Падзьмуў моцны вецер. Ён сарваў з Кацінай галавы вялікі сіні бант.



«Дзе я яго знайду сярод сініх васількоў?» — падумала Каця.

Дапамог верны сябар Рэкс. Ён хутка знайшоў васількова бант.

*Паводле Л. Арабей.*

Спішыце. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць прадметы, прамой лініяй, а словы, якія абазначаюць прыметы прадметаў, — хвалістай.

**145.** Прачытайце словы. Што яны абазначаюць? Падбярыце да іх назвы прадметаў.

З..лёная ..., добрае ..., маленькі ..., невялікае ..., ласкавая ..., сало..кі ... .

Запішыце спалучэнні слоў, устаўце прапушчаныя літары.

**146.** Прачытайце. У якім сказе думка выказана найбольш поўна? Чаму? Растлумачце правапіс слоў з мяккім знакам.

Звініць званок.
Звініць школьны званок.
Звонка звініць школьны званок.

**147.** Прачытайце прыказку і напішыце яе па памяці. Да слова *ласкавы* падбярыце словы, блізкія па значэнні.

Ласкавым словам можна і камень расплавіць.



**148.** Прачытайце. Назавіце словы, якія адказваюць на пытанні я к і? я к а я? я к о е? Падбярыце супрацьлеглыя па значэнні словы. Запішыце сказы.

Кавун (я к і?) вялікі, а яблык ... .
Камень (я к і?) цвёрды, а пух ... .
Дрэва (я к о е?) высокае, а куст ... .
Лета (я к о е?) спякотнае, а зіма ... .

Словы для даведкі: *мяккі, нізкі, малы, сцюдзёная.*

**149.** У залежнасці ад таго, якія прыметы прадметаў выкарыстаць, можна стварыць розныя карціны. Паспрабуйце гэта зрабіць.

Сёння ..., ... дзень. Неба ..., ... . Ад гэтага і настрой ... .

Словы для даведкі: *ветраны, пахмурны, шэрае, нізкае, невясёлы.*

Сёння ..., ... дзень. Неба ..., ... . Ад гэтага і настрой ... .

Словы для даведкі: *цёплы, ясны, высокае, блакітнае, радасны.*

Запішыце адзін з тэкстаў. Прыдумайце да яго загаловак.

*дзве́ры*

**150.** Запішыце па ўзоры.

| | |
|---|---|
| абрус | ільняны́ |
| міска | дубо́выя |
| слоік | гліня́ная |
| дзверы | шкляны́ |

Узор. *Стол* (які?) *драўляны.*

**151.** Дапоўніце сказы словамі, якія абазначаюць прыметы прадметаў. Спішыце тэкст.

Каля балотца густа квітнеюць ... незабудкі. Над ... вадой хістаюцца ... травінкі. Журчыць ... ручаёк. Лётаюць ... стракозы. Пырхаюць ... матылькі. У ... небе плывуць ... воблакі. Яны адлюстроўваюцца ў ... вадзе.

Словы для даведкі: *празрыстай, блакітныя, высокія, звонкі, імклівыя, прыгожыя, сінім, глыбокай, кучаравыя.*

**152.** Знайдзіце словы, якія абазначаюць супрацьлеглыя прыметы прадмета. Запішыце іх парамі па ўзоры.

Халодны, вузкі, гарачы, мелкае, вясёлы, шырокі, сумны, кароткая, дрэнныя, доўгая, вялікі, добрыя, малы, глыбокае.

Узор. *Халодны — гарачы.*

З адной парай слоў складзіце і запішыце сказ.



**153.** Прачытайце. Падрыхтуйцеся пераказаць размову Дуба з Чаротам.

## Дуб і Чарот

Чарот пытае ў Дуба:

— Чаму ты такі стары і тоўсты?

— Мне ўжо больш за сто гадоў, — адказвае Дуб.

— А чаму ты такі дужы?

— Каб перамагчы ўсе цяжкасці, патрэбна вялікая сіла *(Паводле Я. Коласа)*.

Запішыце прыметы дуба.

У з о р. *Дуб* (я к і?) ..., ..., ... .



## Словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў



На якія пытанні адказваюць словы, што абазначаюць дзеянні прадметаў?

**154.** Прачытайце. Якія з гэтых слоў абазначаюць прадметы, якія — прыметы прадметаў, а якія — дзеянні прадметаў? Якія пытанні вы паставіце да слоў з трэцяга слупка?

| | | |
|---|---|---|
| духмяны | сонца | ляцяць |
| ранняя | бэз | свеціць |
| яркае | птушкі | наступіла |
| пералётныя | вясна | цвіце |

Складзіце з гэтых слоў чатыры сказы.

**155.** Прачытайце сказ.



Дзеці пускаюць караблікі.

Якое слова ў сказе адказвае на пытанне ш т о  р о б я ц ь?

Што абазначае слова *пускаюць*: прадмет, дзеянне прадмета ці прымету прадмета?

**156.** Прачытайце. Назавіце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў. На якія пытанні яны адказваюць?

Дрэва расце. Дождж ідзе. Сонца свеціць. Вецер дзьме. Хмара плыве.

Спішыце. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.



Словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў, адказваюць на пытанні ш т о р а б і ц ь? ш т о з р а б і ц ь? (ш т о р а б л ю? ш т о р о б і ш? ш т о р о б і ц ь? ш т о р о б я ц ь? і інш.): *пісаць, напісаць, пішу*.

**157.** Разгледзьце малюнкі. Якія дзеянні выконваюць людзі?








Запішыце па ўзоры.

У з о р. *Касец косіць.*

**158.** Прачытайце назвы прадметаў. Падбярыце да іх словы, якія абазначаюць рух, перамяшчэнне.

| | |
|---|---|
| карабель | скача |
| хлопчык | ідзе |
| заяц | бяжыць |
| птушка | ляціць |
| аўтамабіль | паўзе |
| жаба | падаюць |
| змяя | плыве |
| сняжынкі | імчыцца |

Запішыце па ўзоры.

У з о р. *Чалавек ідзе.*



**159.** Прачытайце. Падбярыце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

| | |
|---|---|
| Вова … посуд. | шые |
| Тата … дровы. | падмятае |
| Вера … падлогу. | коле |
| Бабуля … кветкі. | рамантуе |
| Дзядуля … абутак. | палівае |
| Мама … сукенку. | мые |

Запішыце сказы. Словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў, падкрэсліце дзвюма лініямі.

**160.** Разгледзьце малюнкі.







Дайце дзецям імёны. Па кожным малюнку складзіце сказ, каб у ім былі словы, якія абазначаюць прадметы, прыметы і дзеянні прадметаў.

**161.** Прачытайце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў. Якія прадметы могуць выконваць гэтыя дзеянні?

... прыгравае. ... ажывае. ... з'яўляюцца. ... і ... зелянеюць. ... квітнеюць.

Словы для даведкі: *прырода, лісточкі, сонейка, сады, дрэвы* і *кусты*.

Устаўце замест кропак назвы прадметаў і запішыце сказы. Вусна пастаўце пытанні да ўсіх слоў.

**162.** Прачытайце сказы. Пастаўце пытанні да слоў, якія абазначаюць рух прадметаў.

На рабіне скачуць шустрыя сініцы.
Хутка коціць хвалі рэчка.

Спішыце сказы. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

**163.** Прачытайце і адгадайце загадку.

Летам вырастаюць, а восенню ападаюць.

Запішыце загадку па памяці.

**164.** Прачытайце. Дайце тэксту загаловак. Растлумачце правапіс слоў з выдзеленымі літарамі.

Я жыву ў Мінску. Сонечнай раніцай мы ўсёй сям'ёй пайшлі на плошчу **П**ерамогі. На ёй **у**звышаецца помнік г**е**роям вайны.

Як многа людзей прыходзіць сюды ў Дзень Перамогі! Колькі **ў**сюды кветак!

Мы таксама паклалі чырвоныя цюльпаны да Вечнага агню. В**я**сной і восе**нн**ю, летам і зімой, днём і но**чч**у гарыць ён у памяць абаронцаў **Р**адзімы.

*па́мяць*




Ці ёсць у вашай мясцовасці помнік воінам-вызваліцелям?



**165.** Прачытайце сказы. Падбярыце словы, якія абазначаюць адносіны паміж людзьмі. Запішыце.

*по́дзвіг*

Андрэйка ... сваю маму.
Арцём і Коля ... яшчэ з першага класа.
Дзеці, ... старэйшых і ... малодшых!

Словы для даведкі: *сябруюць, любіць, не крыўдзіце, паважайце.*

Якім сказам перадаецца заклік?

**166.** Прачытайце. Якая тэма тэксту? Чаму некаторыя словы напісаны з вялікай літары?

Над Бугам шмат дзён і начэй грымелі моцныя баі. Абаронцы Брэсцкай крэпасці стрымлівалі націск ворага. Мужна змагаліся пагранічнікі Андрэй Кіжаватаў і Пятро Гаўрыленка.

Подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці назаўсёды застанецца ў нашай памяці.

Спішыце апошні сказ. Вызначце словы, якія абазначаюць, пра што гаворыцца ў сказе і што гаворыцца.

**167.** Прачытайце. Падбярыце словы, якія перадаюць веснавыя змены ў прыродзе.

Траўка … . Лісточкі … . Кветкі … . Дзень … . Птушкі … . Вожык … .

Словы для даведкі: *распускаюцца, зелянее, расцвітаюць, прыляцелі, прыбывае, прачнуўся.*

Складзіце сказы і запішыце іх.

**168.** Прачытайце тэкст.

## Песні вясны

Дзеці павыходзілі на двор. Яны слухаюць песні вясны.

У небе звонка звініць жаваранак. На голай бярозе свішча шпак. У лесе спяваюць дразды. Ля возера крычаць качкі *(Паводле Я. Коласа)*.

Выпішыце сказы, у якіх расказваецца, як птушкі падаю́ць галасы.

Падкрэсліце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

**169.** Прачытайце. Падбярыце патрэбныя словы. Запішыце сказы.

1. Бабуля ... легенду дзецям. 2. Настаўніца ... вучням новую тэму. 3. Бацька ... з сынам. 4. Вучань ... на пытанне. 5. Пеця нешта ... сябру на вуха. 6. Коля ... у брата кнігу. 7. Міша ... у мамы: «Мы пойдзем у заапарк?»

Словы для даведкі: *тлумачыць, расказвае, адказвае, размаўляе, папрасіў, прашаптаў, запытаўся.*



**170.** Адгадайце загадкі.

Стукае, грукае, а нідзе яго не відаць.
У шырокім полі салавей свішча.
Лёгкі, але не пух. Грэе, ды не кажух.
Вясна настане — увесь растане.




Запішыце загадкі і адгадкі. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

# Прыназоўнік



**Для чаго патрэбны прыназоўнікі ў мове?**

**171.** Разгледзьце малюнак.



Адкажыце на пытанні.

1. Дзе сядзіць заяц?
2. Куды схаваўся вожык?
3. Дзе знаходзіцца мышаня?
4. Куды падышло аленяня?
5. Дзе лётае матылёк?

Адказы запішыце, выкарыстайце словы *на, за, над, пад, да*. Падкрэсліце іх.

**172.** Прачытайце. Як звязваюцца словы паміж сабой?

| | | |
|---|---|---|
| вучыцца<br>школе |  | вучыцца **ў** школе |
| працуе<br>заводзе |  | працуе **на** заводзе |
| схаваўся<br>кустом |  | схаваўся **пад** кустом |
| ляцяць<br>зямлёй |  | ляцяць **над** зямлёй |

Запішыце спалучэнні слоў. Падкрэсліце прыназоўнікі.



Словы ***у, на, над, з, за, з-за, да, ад, па, пад*** служаць для сувязі слоў у сказе — гэта прыназоўнікі. Прыназоўнікі пішуцца заўсёды асобна ад іншых слоў у сказе: ***У*** *вароны гняздо* ***на*** *ліпе.*

**173.** Прачытайце сказы. Устаўце патрэбныя прыназоўнікі.

| | |
|---|---|
| Мая бабуля жыве (д з е?) ... вёсцы. | над |
| Кніга ляжыць (н а ч ы м?) ... стале. | за |
| (Д з е?) ... ракой раскінуўся шырокі луг. | у |
| (Н а д ч ы м?) ... полем сцелецца нізкі туман. | на |

Запішыце сказы.



**174.** Прачытайце сказы.

Дзеці весела смяяліся (...) з жартаў клоўна.

Хлопчыкі гулялі (...) у футбол.

Сонца схавалася (...) за дах высокага дома.

Спішыце па ўзоры. У дужках запішыце пытанні. Падкрэсліце прыназоўнікі.

У з о р. *Міша прачнуўся* (к а л і?) *у сем гадзін раніцы*.

**175.** Прачытайце. Падбярыце прыназоўнікі, якія нададуць спалучэнням супрацьлеглае значэнне.

У з о р. *Пайсці* ***ў*** *школу — прыйсці* ***са*** *школы.*

Растуць **перад** нашым домам — растуць … нашым домам.
Гуляць **да** абеду — гуляць … абеду.
Ляжыць **на** стале — ляжыць … сталом.

**176.** Разгледзьце малюнак. Прачытайце тэкст. Раскажыце, што здарылася з хлопчыкамі ў лесе.

Пеця з Мішам пайшлі ў лес. У старым дрэве яны знайшлі пчалінае дупло. Міша



палез на дрэва. З дупла вылецелі пчолы. Міша саскочыў на зямлю. Пчолы паляцелі за хлопчыкамі.

Спішыце тэкст. Падкрэсліце прыназоўнікі.

**177.** Прачытайце. Да выдзеленых слоў пастаўце пытанні. Назавіце прыназоўнікі.

Раптоўна сонца схавалася **за хмару.** Зашумелі дрэвы. **Па небе** секанула маланка. Усё наваколле скаланулася **ад грому.** Дождж ішоў нядоўга. Зноў **у небе** заззяла сонца. **У садзе** загаманілі, заспявалі птушкі *(Паводле І. Муравейкі)*.



**178.** Прачытайце, устаўце патрэбныя прыназоўнікі.

Сонца спаць пайшло ... горку.
Кроплі расы блішчаць ... траве.
Ноч плыве ... зямлёй.

Словы для даведкі: *над, за, па.*

Запішыце сказы.

## Праверце сябе

**1.** Назавіце словы, якія адказваюць на пытанне х т о?

Машына, метро, ракета, рыба, мурашка.

**2.** У якім радку словы адказваюць на пытанні я к і? я к а я? я к о е? я к і я?

а) цукар, пячэнне, яблык, соль
б) салодкі, смачная, салёнае, кіслыя
в) бегаў, соліць, купілі, зрывае

**3.** Знайдзі словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

Зубры ў гушчары пратапталі сцежкі.
Высока ў небе спявае жаваранак.
Пасярод лесу працякаў ручай.

**4.** Запішыце сказы, раскрываючы дужкі.

Хадзіў дзед *(на)*паляванне. Паляваў *(ад)*ранку *(да)*змяркання. Зморыцца, аж слова не прамовіць, а звярыны не зловіць *(З народнага)*.



## Давайце пазнаёмімся

**179.** Прачытайце, як адбывалася знаёмства хлопчыка з кіраўніком гуртка.

— Добры дзень! Мяне завуць Іван Сядун. Мне восем гадоў. Я вельмі люблю маляваць і хачу наведваць ваш гурток.

— Дзень добры! Я — Мікалай Іванавіч. Вельмі прыемна, будзем знаёмыя. Праходзь, не саромейся.

Якія ветлівыя словы гавораць людзі пры знаёмстве? Што паведамілі пра сябе хлопчык і кіраўнік гуртка на пачатку знаёмства?

**180.** Прачытайце словы, якія ўжываюць пры знаёмстве.



Вельмі прыемна.
Будзем знаёмыя.
Рады(а) знаёмству.
Прыемна пазнаёміцца.

**181.** Прачытайце размову, якая адбылася паміж двума хлопчыкамі пры знаёмстве.

— Добры дзень.
— Прывітанне.
— Як цябе завуць?
— Міша. А цябе?
— Валодзя. Мне прыемна з табой пазнаёміцца. У якім класе ты вучышся?
— Я вучуся ў другім класе. А ты?
— А я ўжо ў трэцім класе. Прыходзь, пагуляем у двары ў футбол.
— Дзякуй, прыду. Толькі маме трэба дапамагчы.
— Да пабачэння.
— Да сустрэчы.

Выпішыце словы прывітання і развітання. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя гукі.



**182.** Разыграйце з суседам па парце сцэнку знаёмства на вуліцы або на стадыёне. Вы можаце прыдумаць і іншую сітуацыю. Не забывайце ўжываць ветлівыя словы!

**183.** Адкажыце на пытанні.

1. Як завуць твайго сябра (сяброўку)?
2. Ці даўно вы пазнаёміліся?
3. Што вы любіце рабіць разам?
4. Ці бываюць паміж вамі спрэчкі?
5. Хто першы прапануе мірыцца?



**184.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак.

Працавіты шустры вожык
не шкадуе жвавых ножак.
Назбіраў грыбоў, арэхаў,
каб зімой была ўцеха.

*Т. Мушынская.*

Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць няпарныя цвёрдыя зычныя гукі.

Выпішыце словы, якія маюць тры склады. Падзяліце выпісаныя словы для пераносу.

## ПАЎТАРЭННЕ

**185.** Прачытайце. Колькі сказаў у тэксце?

Назавіце словы, у якіх пяць складоў.

У выдзеленым слове назавіце гукі. Якімі літарамі яны абазначаюцца?



### Сцежкамі паэта

За Пінскам ёсць **невялікая** вёска. Абапал дарогі стаяць акуратныя домікі. Гэта вёска Пінкавічы. Тут калісьці працаваў настаўнікам Якуб Колас. Шмат твораў пра родны край ён напісаў у Пінкавічах *(Паводле С. Александровіча)*.

Спішыце тэкст.

**186.** Прачытайце тэкст.

Настаўніца дала вучням заданне падзяліць словы для пераносу.

Алёша запісаў словы так: лоў-кія, зайчанят-кі, мядзве-дзі, кро-пелькі.

— А інакш можна перанесці? — спытала настаўніца.

— Можна, — не задумваючыся, адказаў вучань і зрабіў іншы падзел.

Які падзел слоў для пераносу зрабіў Алёша? Ці можна перанесці слова *лоўкія* па-іншаму?

**187.** Прачытайце тэкст. Назавіце словы, якія дапамагаюць звязаць сказы ў тэксце. Растлумачце правапіс літар ***у*** і ***ў***.

### Пасля школы

Вадзім прыйшоў са школы. Пасля кароткага адпачынку ён узяўся за ўрокі. Вадзім выканаў заданні па матэматыцы і беларускай мове. Хлопчык не заўважыў, як хутка прайшоў час. Нарэшце ўрокі былі зроблены. Цяпер можна і пагуляць *(Паводле П. Рунца)*.

Спішыце тэкст. У першых двух сказах падкрэсліце словы, якія абазначаюць, пра каго гаворыцца ў кожным сказе і што гаворыцца.

**188.** Прачытайце сказы. Назавіце словы, якія абазначаюць, пра каго (пра што) гаворыцца ў кожным сказе і што гаворыцца.

Пастаўце пытанні да іншых слоў у сказах.

1. Сонейка в..сновае радасна ..сміхаецца *(У. Карызна)*.

2. Голу.. кружыць пад блакітным небам *(Я. Брыль)*.

3. Пчолкі л..цяць да красак м..довых *(Ю. Свірка)*.

4. До..гі дзень адплывае за аблокі *(Г. Бураўкін)*.

5. Пайшоў шпак на шашу *(В. Вітка)*.

Спішыце сказы, устаўце патрэбныя літары. Растлумачце іх напісанне.

**189.** Прачытайце сказы. Пра каго (пра што) гаворыцца ў кожным сказе? Што гаворыцца?

Жылы дрэў напоўніліся сокам.
Ручаі імкнуцца да ракі.
Пяюць вясёлыя шпакі.

Спішыце. Падкрэсліце словы, у якіх тры склады.

**190.** Прачытайце з патрэбнай інтанацыяй.

— Мышка, мышка, дзе была
— Была ў пана караля
— Што рабіла
— Лыжкі мыла
— А што далі
— Кусок сала
— Дзе паклала
— Пад лаўкаю
— Дзе падзела
— Кошка з’ела
— Бяжым за кошкаю *(З народнага)*.



Спішыце. Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку ў канцы сказаў.

**191.** Выпішыце спачатку словы, якія адказваюць на пытанне х т о? Затым выпішыце словы, якія адказваюць на пытанне ш т о?

Грыбнік, грыбок, звярок, лес, бульба, стол, сястра, песня, Маша, майстар, цішыня, дзверы, свята, жыта, пчала, сонечны, лясны.

Якія словы вы не выпісалі? Чаму?

**192.** Прачытайце словы. Пастаўце да іх пытанні. Што абазначае кожнае слова?

Конь, карась, муха, верабей, жаваранак, будаўнік, карп, артыст, авечка, сом, камар, мядзведзь, каза, інжынер, бусел, плотка, шпак, вожык, зязюля, ліса, барсук.

Вызначце, да якіх груп адносяцца словы.

*Людзі:* дзеці, ... .
*Свойская жывёла:* карова, ... .
*Звяры:* воўк, ... .
*Птушкі:* певень, ... .
*Рыбы:* шчупак, ... .
*Насякомыя:* жук, ... .

Запішыце словы адной групы.



**193.** Прачытайце.

Гулялі дзеці ў двары. Бачаць: бяжыць вожык па дарожцы. Прыціхлі, назіраць сталі. А з-за кустоў выйшла кошка. Яна таксама звярка ўбачыла. Скочыла кошка на калючага вожыка...

Прыдумайце працяг тэксту.

**194.** Прачытайце тэкст.

З даўным-даўна **буслы, бусліцы**
тут гадаваліся, жылі,
бо ўжо найлепшае сталіцы
на ўсёй акрузе не знайшлі.
Тут ім — **балоты, азярыны,**
рачны **блакіт** і **шыр** лугоў.
Таму і гнёздаў шмат бусліных
у Бу́слаўцы спакон вякоў.

*А. Русак.*

Выпішыце з верша выдзеленыя словы, вусна пастаўце да іх пытанні.

**195.** Прачытайце тэкст. Колькі ў ім частак? Падбярыце загаловак да тэксту.

Сыпануў цёплы дождждык. Дзеці бегаюць пад дождждыкам і весела крычаць: «Дождждык, дождждык, сыпані, мы паедзем на кані!»

Дождждык быў спорны. Дзеці пахаваліся ў хату і там **ужо** крычалі: «Дождждык, дождждык, секані, усіх у хату загані!»

Пасля дожджыку яны **ўжо** крычалі: «Дожджык, дожджык, ужо канчайся! Дзетвара, гуляць збірайся!» *(Паводле В. Хомчанкі)*.

Назавіце гукі ў слове *дожджык.* Якімі літарамі яны абазначаны?

Растлумачце, чаму ў выдзеленым слове ў адным выпадку напісана літара ***у***, а у другім — ***ў***.



**196.** Разгледзьце малюнкі. Складзіце тэкст па плане.

**Чым пахнуць кветкі?**







План

1. Як цудоўна пахнуць кветкі!
2. Я не ведаў, што кветкі мёдам пахнуць.
3. Кветкі — убранне зямлі.

Запішыце апавяданне, якое вы склалі.

**197.** Прачытайце загадкі і адгадайце іх. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.



Не рыба, а плыве, не конь,
а ідзе, не пілка, а рэжа.



Рагатыя мя**ш**кі
надзелі кажу**ш**кі,
гуляюць па лу**ж**ку,
а спяць у кату**ш**ку.

*У. Дубоўка.*

Спішыце. Падкрэсліце словы, якія абазначаюць дзеянні прадметаў.

**198.** Прачытайце лічылку. Назавіце гукі ў выдзеленых словах. Якія гэта гукі?

**Лічылка**

**Антон** купіў **батон**,
раскрыў **парасон**,
паляцеў на **балкон**,
сеў на **бітон**,
рэзаў **кардон**,
еў **лімон**.

**Вагон, талон,** сіфон —
выйдзі вон!

*У. Лінскі.*

Выпішыце выдзеленыя словы. Растлумачце іх значэнне.

Прыдумайце самі падобную лічылку.



## Размаўляем па тэлефоне

**199.** Прачытайце запіс размовы па тэлефоне аднаго хлопчыка. Ці ветлівы гэты хлопчык?



— Добры дзень. Паклічце, калі ласка, Сашу.

— ...

— А калі ён прыйдзе?

— ...

— Скажыце яму, калі ласка, што тэлефанаваў Ігар.

— ...

— Дзякую. Да пабачэння.

Выпішыце словы ветлівасці.



**200.** Уявіце, што ў вашай кватэры зазваніў тэлефон. Нехта просіць паклікаць маму. Мамы дома няма. Што вы скажаце гэтаму чалавеку? Падрыхтуйце размову з суседам па парце.

**201.** Прачытайце верш Сяргея Грахоўскага. Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

### Лета

Пр**ы**ходзіць лета звонкае
птуш**ы**наю гамонкаю.
Над сінімі азёрамі
яно **ў**зыходзіць зорамі,
а пахне м**е**дуніцамі
і спелымі суніцамі.
Куды ні глянь — усюды
цябе чакаюць цуды.
Цябе чакаюць сце**ж**кі
і радасныя **ў**сме**ш**кі,
лугі, л**я**сы, палі
і шчасце на з**я**млі.

# СЛОЎНІК

## Сям’я

бабу́ля
брат
дачка́
дзяду́ля
ма́ма
праба́бка
пра́дзед
сын
сястра́
та́та
уну́к
уну́чка

## Школа

ало́вак
ву́чань
каніку́лы
клас
кні́га
наста́ўніца
падру́чнік
пена́л
перапы́нак
сшы́так
уро́к
чвэрць

## Дні тыдня

панядзе́лак
аўто́рак
серада́
чацве́р
пя́тніца
субо́та
нядзе́ля

## Назвы месяцаў

сту́дзень
лю́ты
сакаві́к
красаві́к
май
чэ́рвень

лі́пень
жні́вень
ве́расень
кастры́чнік
лістапа́д
сне́жань

## Гарады Беларусі

Бабру́йск
Бара́навічы
Брэст
Ві́цебск
Го́мель
Гро́дна
Жо́дзіна

Івацэ́вічы
Магілёў
Мазы́р
Мінск
Пінск
По́лацк
Салігóрск

## Рэкі і азёры Беларусі

Брасла́ўскія азёры
Бярэ́зіна
Гары́нь
Дзвіна́
Дняпро́

На́рач
Нёман
Пры́пяць
Сві́слач
Сві́цязь

## Агароднiна і садавiна

агуро́к
бура́к
капу́ста
кроп
мо́рква
памідо́р
рэ́дзька
сала́та
цыбу́ля
чарэ́шня
часно́к
я́блык

## Ягады і грыбы

агрэ́ст
ажы́ны
апе́нька
бараві́к
брусні́цы
буякі́
жураві́ны
лісі́чка
малі́ны
масля́к
мухамо́р
падасі́навік
падбяро́завік
ры́жык
суні́цы
сырае́жка
чарні́цы
шампіньён

## Зерневыя культуры

авёс
грэ́чка
жы́та
про́са
пшані́ца
ячме́нь

## Дрэвы і кусты

але́шына (во́льха)
арэ́шына (ляшчы́на)
асі́на
бяро́за
ві́шня
вярба́
гру́ша
дуб
е́лка
клён
лаза́
лі́па
малі́на
парэ́чкі
рабі́на
сасна́
слі́ва
я́блыня

## Дзікія звяры

але́нь
бабёр
барсу́к
вавёрка
во́жык
воўк
дзік
за́яц
зубр
казу́ля
лісі́ца
лось
мядзве́дзь
рысь

## Дзікія птушкі

аўся́нка
бу́сел
варо́на
верабе́й
го́луб
дзя́цел
дрозд
жа́варанак
жураве́ль
зязю́ля
каршу́н
крыжадзю́б
ла́стаўка
сава́
салаве́й
саро́ка
сіні́ца
снягі́р
со́кал
шпак

## Адзенне і абутак

бо́ты
валёнкі
кажу́х
касцю́м
кашу́ля
ку́ртка
паліто́
сарафа́н
спадні́ца
суке́нка
ту́флі
хала́т
чараві́кі
штаны́

# Спіс выкарыстанай літаратуры

*Александровіч, С. Х.* Ад роднай зямлі : Аповесць пра маленства і юнацтва Я. Коласа / С. Х. Александровіч. Мінск : Дзяржвыд БССР, 1962.

*Арабей, Л.* Выбраныя творы / Л. Арабей. Мінск : Кнігазбор, 2013.

*Валько, М.* Эстафета : зборнік прозы і паэзіі / М. Валько. Нясвіж : Нясвіжская друкарня, 2014.

*Вітка, В.* Дом, дзе жывуць словы : слоўнік народнай мовы для дзяцей / В. Вітка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1995.

*Даніленка, М.* Родная зямля : аповесці і апавяданні / М. Даніленка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1982.

*Дубініна, Д. М.* Свет вакол мяне : вучэб.-метад. дапам. для педагогаў устаноў дашк. адукацыі з беларус. мовай навучання / Д. М. Дубініна. Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2012.

Дзіцячы фальклор Віцебшчыны ў сучасных запісах / склад. А. С. Емяльянаў, Г. П. Харошка. Віцебск : Выдавецтва ВДУ, 2007.

*Гілевіч, Н.* Калі рана ўстанеш : вершы, казкі, байкі, небыліцы, загадкі / Н. Гілевіч. Мінск : Юнацтва, 1984.

*Караткевіч, У. С.* Збор твораў : у 8 т. / У. С. Караткевіч. Мінск : Мастацкая літаратура, 1987—1991.

*Колас, Я.* Збор твораў : у 14 т. / Я. Колас. Мінск : Дзяржвыд БССР, 1972—1978.

Крынічка : чытанка : для дашк. і малод. шк. узросту / уклад. Р. М. Міронава. Мінск : Мастацкая літаратура, 2009.

Крынічка : хрэстаматыя для дзяцей малод. шк. узросту / уклад. Р. І. Шастак. Мінск : Радыёла-Плюс, 2014.

*Пазнякоў, М. П.* У родным краі : зборнік : для малод. шк. узросту / М. П. Пазнякоў. Мінск : Литература и Искусство, 2009.

*Пальчэўскі, А.* Выбраныя творы : у 2 т. / А. Пальчэўскі. Мінск : Мастацкая літаратура, 1980.

*Паўлаў, У.* Хто знае — адгадае : вершы, забаўлянкі-пазнаванкі, загадкі, казкі / У. Паўлаў. Мінск : Юнацтва, 1997.

*Солахаў, А. В.* Займальна ад А да Я / А. В. Солахаў. Мінск : Лексіс, 2004.

*Ткачоў, В.* Высокі страх : апавяданні / В. Ткачоў. Мінск : Мастацкая літаратура, 2014.

*Хомчанка, В.* Выбраныя творы : у 2 т. / В. Хомчанка. Мінск : Мастацкая літаратура, 1979. — Т. 2 : Апавяданні, гумарэскі.

Хрэстаматыя па беларускай дзіцячай літаратуры / склад. М. Ф. Шаўлоўская. Мінск : Вышэйшая школа, 1989.

# ЗМЕСТ

## Тэкст



## Сказ



## Слова

